**BIELARUS**
**Byelorussian Newspaper of North America**
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.

Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

# НАД СЬВЕЖАЙ МАГІЛАЙ



## ДОКТАР СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ

Вестка аб сьмерці Доктара Станіслава Грынкевіча мяне ашаломла сваёй неспадзяванасьцяй, што не магу ўраўнаважыць сваіх думак, пішучы гэтыя словы апошняга разьвітаньня зь ім.

Блізка супрацоўнічаць зь Нябожчыкам давялося мне ўсяго каля двух год: з восені 1941 да восені 1943. За гэны, хоць і кароткі, час былі мы нагэтулькі зрадніліся, што Стась, ці як яго мы найчасьцей звалі, Стасюк, і сяньня мне ўяўляецца маім сябрам зь дзяцінства.

Нашае спатканьне, як потым і разьвітаньне адбылося ў досыць спэцыфічных абставінах. Пазнаёміў нас мэцэнас Мікола Шкялёнак у сваёй рэдакцыі газэты „Раніца" ў Бэрліне. Якраз варочаючыся з Гэстапа, я зайшоў да Шкялёнка, каб расказаць яму, як мяне там тэрарызавалі допытамі пра маю „антынямецкую дзейнасьць" у Францыі, пра нашую беларускую там арганізацыйна-вайсковую акцыю й г. д. Грынкевіча-ж яшчэ хвалявалі ўспаміны з карнага лягеру, куды ён быў папаў за свой пратэст супраць высылкі гратуляцыйнай тэлеграмы Гітлеру.

Было гэта так. У лягеры ваеннапалонных ахвіцэраў польскіх нацыянальных мяншыняў, выдзеленых ад ваеннапалонных Палякаў, была група й ахвіцэраў Беларусаў. Старастам лягеру быў найстарэйшы там чынам маёр, не Беларус. У дзень заняцьця Немцамі Парыжа згаданы маёр у асысьце нямецкіх ахвіцэраў выстраіў лягер дзеля абвешчаньня ім гэнае „радаснае" навіны. Маёр пры гэтым адразу-ж прачытаў зрэдагаваную ўжо ім прывітальную тэлеграму Гітлеру з нагоды ўзяцьця нямецкай арміяй Парыжа. На запытаньне маёра: „хто супраць?" — зь беларускага шэрагу дробная з выгляду, але энэргічная ў рухах постаць адбіла некалькі крокаў наперад. „Катэгарычна супраць! Нясумяшчальна з годнасьцяй ахвіцэра!.. На нас мундзіры польскіх ахвіцэраў... Мы яшчэ палонныя... Не ў вайсковай традыцыі, каб палонны гратуляваў свайго панявольніка... Францыя ня была ніколі ворагам Беларусі, часьцей прыяцелем... Як беларускі ахвіцэр стану на фронт толькі супраць ворагаў беларускага народу..." Гэта быў паручнік Станіслаў Грынкевіч.

З лягеру Грынкевіч быў уміг забраны жандармэрыяй і адпраўлены ў карны вайсковы лягер, дзе прасядзеў больш за паўгода (здаецца, каля 8 месяцаў). За ягонае вызваленьне энэргічна змагаўся ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі пры дапамозе праф. фон С. Мэндэ. Але як пазьней высьнілася, галоўную ролю ў Грынкевічавым звальненьні адыграла тое, што паручнік Станіслаў Грынкевіч гэтымі сваймі паводзінамі, годнымі запраўднага ахвіцэра, ачараваў генэрала, кантролю якога падлягаў гэны лягер. Выйшла нешта падобнае, як калісьці з палонным маладым паручнікам Л. Н. Талстым, калі правадыр каўказкіх паўстанцаў Шаміль загадаў: „Адвесьці назад, да рускіх, гэта цікавы чалавек!"

Доктар Грынкевіч быў чалавекам запраўды цікавым, арыгінальным і вартасным. Быў ён асабліва цэнным у руху нашага вызвольнага змаганьня. Сёй-той яго не разумеў. Некаторыя ўважалі яго „наіўным", палітычна „нетактоўным". Было гэта больш чымся непаразуменьне. Грынкевіч належаў да такіх людзей, у дзейнасьці якіх ня бывае ніводнага выпадковага, непрадуманага руху. Палітычна, філязафічна й маральна ён быў скрышталізаваны. На першым месцы ягонай жыцьцёвай квінтэсэнцыі было змаганьне за волю беларускага народу, за незалежнасьць Беларусі.

Грынкевіч быў цьвёрда веруючым хрысьціянінам-каталіком, але не каталіком фанатыкам, як некаторыя дзякуючы непаразуменьню ўяўлялі яго. Ён быў вельмі ляяльны й талерантны да ўсіх формаў рэлігіі ў Беларусі яшчэ шмат раней, чымся былі абвешчаныя прынцыпы гэтае талерантнасьці апошнім Ватыканскім Саборам.

Нэталерантнасьць **Грынкевіча** праяўлялася **адно тады**, калі праз любую царкву, у тым ліку й каталіцкую, прасочвалася ў нашае нацыянальнае жыцьцё атрута ці хоць-бы прытручваньне. Гэтага быў Грынкевіч бязьлітасным ворагам.

У змаганьні за зьдзейсьненьне нашых нацыянальных ідэялаў Грынкевіч моцна верыў у сілу апостальства. Апостальства ня ў пустаслоўі, ня ў дэклямацыях пустых словаў, а ў дзеяньні. За ўспомненыя мною два гады супольнай маёй зь ім працы мне давялося быць навочным сьветкам гэтага. Падчас першага нашага спатканьня ў Шкялёнка, ад якога мы чакалі рады абодвы, як нам далей быць, атрымалі такі адказ: „У расейскіх царскіх праўнікаў была такая формула для дэфініцыі сытуацыі, падобнай да нашай: „оправдать и подвергнуть строгому наблюдению". На Беларусі было-б добра... Там, як што, дык у лес..., а тут дзе дзенешся? Легальна вас туды ня пусьцяць, нелегальна-ж... Пачакаем павароту ксяндза Вінцэнта, а пакульшто бярыцеся за камітэт".

І мы ўзяліся. Беларускі Камітэт Самапомачы ў Бэрліне дагэтуль існаваў толькі на паперы. Чатырох зь пяцёх сяброў ягонай управы, маладыя хлопцы Акінчыцавай групы, былі ў сталых разьездах, найчасьцей па Беларусі. БКС ня меў нат свайго памешканьня. Ня было й фармальнага дазволу ад нямецкіх уладаў на ягонае існаваньне. Шкялёнак апрацаваў быў у свой час статут, надрукаваў яго ў „Раніцы", і яму ў Гэстапо сказалі: „На вашую адказнасьць можаце дзеіць". Так нам і сказаў Шкялёнак: „На маю адказнасьць".

Для нас гэта было вельмі выгадна. Тое, што Шкялёнак карыстаўся ў Немцаў аўтарытэтам, нікога з нас не бянтэжыла. Шкялёнка мы ўсе знալі, як добрага беларускага патрыёту, ахвярнага й адважнага дзеяча. На скліканай Шкялёнкам сходцы нашай бэрлінскай калёніі я з Грынкевічам былі выбраныя на найадказьнейшыя становішчы ў БКС: я за старшыню, Грынкевіч за генэральнага сакратара.

Паводля ўпляванае праграмы на бліжэйшы час, мы мусілі заняцца ваеннапалоннымі Беларусамі з польскае арміі. Каля сарака іх тысячаў былі ўжо зволененыя з палону й знаходзіліся на цывільнай працы. Каля гэтульксі-ж прабывала яшчэ ў лягерах у стане ваеннапалонных, але ўжо выдзеленых ад Палякаў. Спаміж звольненых часамі пражывала разам у прыхвабрычных памешканьнях групамі да ста чалавек, а ў вялікіх індустрыяльных цэнтрах (Брэмэне, Гамбургу, Кэнігзбэргу) і тысячамі.

Была гэта вельмі сымпатычная й інтэлігентная моладзь. Праведзеная намі анкета выявіла, што, не зважаючы на ведамую недаверлівасьць Палякаў да Беларусаў, амаль пятая частка гэтае беларускае моладзі мела падахвіцэрскія рангі. Гэтая моладзь проста захоплівала й падымала нашы энтузіязм у камітэцкай працы.

Моладзь гэная была моцна патрыятычная. Гарнулася да веды, асабліва да пазнаньня гісторыі Беларусі. Курсамі беларусаведы, якія былі намі арганізаваныя ў некаторых пунктах, як Бэрліне, Пазнані, Кэнігзбэргу, усіх ахапіць было нельга. Неабходнае было выдавецтва, кнігі, мастацкая літаратура, брашуры, якія абміналі-б нямецкую цэнзуру. Але як было на ўсё гэта здабыць паперу пры такой суровай у Немцаў рэглямантацыі?

Стась Грынкевіч выявіў і ў гэтай галіне нязвычайныя здольнасьці. Запісаўшыся дакончываць свае мэдычныя студыі, па дарозе з унівэрсытэту ён прыяжджаў абчэплены пакункамі да 10-ёх, часам нат да 20-ёх кілягармаў ратататарнай паперы. Хутка дзесьці раздабыў таксама й ратататар і аж чатыры машынкі да пісаньня. Хутка мы не маглі ўжо ўтапіцца у вадным, хоць і прасторным, памешканьні (былой краме) пры адной з галоўных вуліц Бэрліну. Стась прыдбаў недалёка й другое памешканьне з трох пакояў. Ратататар наш працаваў бязупынна, часамі ў „дзьве зьмены". І усё, што друкавалася, толькі пад „цэнзурай" мэцэнаса Шкялёнка. Падручнік „Гісторыя Беларусі ў картах" выйшаў аж чатырма выданьнямі, заспакоіў ён ня толькі смагу сяброў БКС у Нямеччыне, а й апынуўся ў шмат якіх беларускіх школах на бацькаўшчыне.

Свае любілі Грынкевіча галоўна за ягоныя палымяна-шчырыя, прыгожыя й патрыятычныя прамовы. Чужых, нат ворагаў часамі Грынкевіч бянтэжыў адвагай гэнага свайго апостальства. Для яго абсалютна ня існавалі такія абставіны, якія-б змусілі яго дзеіць наперакор свайго пераканаﾅьня.

У верасьні 1943 году было пастаноўлена, каб я аб'ехаў Беларусь. Асабліва гэтага дамагаўся Усевалад Родзька. Грынкевіч прынёс мне „пропуск" і я цішком зьнік, быццам выехаў на правінцыю. Але штосьці праз тыдзень Акінчыцавы хлопцы паставілі на ногі Гэстапа. Калі пасьля аб'езду Беларусі я прыбыў у Беласток, дык Хв. Ільляшэвіч і інж. Ул. Тамашчык прачыталі мне нязвычайны для Грынкевіча ягоны панічны ліст, што „калі зьявіцца ў Вас Абрамчык, каб адразу-ж вярнуўся ў Бэрлін".

У Бэрліне выясьнілася, што Грынкевіч турбаваўся не за сябе, як заложніка, а баяўся, каб мяне „ня цапнулі" ў Беларусі. Ён хацеў, каб няўхільны над намі „суд" адбыўся ў Бэрліне нам разам. У Бэрліне была атмасфэра нэрвовая й цяжкая. Крымінальны інспэктар Гэстапа Стэфанс праводзіў мяне із Стасям із свайго бюра ў арыштанцкую дзесьці каля Александарпляцу. Груба вылаіўшыся і паказаўшы нам месца, із злосьцяй хляснуў дзьвярыма, перакруціўшы ключ у дзьвярах. Сядзець там доўга нам не давялося. Праз гадзіны чатыры той самы Стэфанс нас забраў і прывёў да свайго шэфа маёра Вольфа. „Суд" быў ужо там на месцы. Сваім складам ён нас проста ашаломіў: былі гэта тры падручныя Акінчыца й калішні сакратар інж. А. Шкуткі, а тады кіраўнік г. зв. Беларускага Прадстаўніцтва. Нам не запрапанавалі нат сесьці, мы перад „судом" стаялі. Стэфанс, у ролі пракурора, пачаў пералічваць усе „злачынствы" БКС. Мне-ж асабіста было прыпомнена ўсё чыста, пачынаючы ад маёй дзейнасьці ў Парыжы, канчаючы маёй нелегальнай паездкай у Беларусь.

Я час ад часу пазіраў на Стася. Ён стаяў, як струна, пражэктарам перакідваў свой войстры пагляд з аднаго „судзьдзі" на другога. Рукі здраджвалі нэрвовасьць ці хутчэй за ўсё нецярплівасьць.

Пытаньне маёра Вольфа: „У якіх вы дачыненьнях з Абрамчыкам?" Грынкевіч, нат і не задумоўваючыся, адказаў: „Як двух найшчырэйшых сяброў, зьвязаных супольнымі ідэялямі й супольнай мэтай".

Такі адказ зьбянтэжыў увесь „суд". Нейкі час запанавала маўчаньне. „Хацеў-бы слова!" — парушыў цішыню Грынкевіч. „Але не да суду, а як беларускі ахвіцэр да нямецкага ахвіцэра..." Маёр, трохі зацяўшыся, дае згоду.

Прамова Грынкевіча трывала з дваццаць хвілін. Калі мне Бог дазволіць калісьці выдаць мае ўспаміны, Стасяву прамову зьмяшчу поўнасьцяй. Была гэта найпрыгажэйшая з усіх прыгожых Стасявых прамоваў, якія я чуў.

На заканчэньне сваёй прамовы Грынкевіч сказаў: „Вы абвесьцілі вайну юдаізму, а для нас (паказваючы рукой на Акінчыцавых хлопцаў) гадуеце найгоршага выданьня „Юдаў". Маёр аж падскочыў з крэсла, разгубіўся ды зь вінаватай мінай: „А што я маю рабіць, калі яны мне не даюць спакою, амаль штодня: БКС тое, Абрамчык тое, Абрамчык гэта..."

Прысуд маёра Вольфа зьдзівіў усю беларускую калёнію Бэрліну. Я із сям'ёй быў вывезены ў Парыж толькі пад г. зв. дамашні арышт, а Грынкевіч пакінуты ў Бэрліне. Я глыбака перакананы, што ў гэткім фінале адыйграла сваю ролю „прамова ахвіцэра да ахвіцэра". Ды больш чымся перакананы, бо перад прамоваю Стася маёр Вольф прагаварыўся быў, што ўжо было пастаноўлена „ізаляваць" мяне дзесьці ў Нямеччыне.

Вось такім у маёй памяці астаўся наш дарагі Доктар Станіслаў Грынкевіч. Пасьлей нас разьдзяляла адлегласьць. Гады праз гады спатыкаўся я зь ім. Апошні раз бачыў яго гады чатыры таму. Цяжкая прафэсія пачынаючага ў амэрыканскіх абставінах лекара, залішне цесныя правінцыяльныя рамы для грамадзка-палітычнага жыцьця — усё гэта сьціскала ягоныя арліныя крылы, а разам з гэтым і ягонае сэрца — сэрца вялікае, шляхотнае, патрыятычнае.

Адна сяброўка пісала мне з пахаронаў: „На паніхідзе ўся кліўлендзкая калёнія плача. А я гляджу ўвесь час на Стася й ня верыцца, што ён памёр. Ён такі прыгожы, як жывы, як калісьці ў Бэрліне, трошкі мо пасталеў. Мне здаецца, што вось расшчэпіць рукі і скочыць да нас, у чымсьці горача пераконваючы. Але я апамятваюся, далучаюся да ўсіх — хліпаю..."

А ўчора ліст ад сяброў з Кліўленду: „Ведаеце, Доктара няма! Чулі, што маеце прыехаць у ЗША. Не забудзьцеся-ж на нас, нам гэтак цяжка!"

І мне цяжка, дарагія Сябры. Цяжка, шкода! Палівайце кветкі на Ягонай магіле. Хай яму будзе лёгкай чужая зямелька!

**Мікола Абрамчык**

## НАД ТРУНОЙ НЯБОЖЧЫКА

Не зважаючы на працоўны дзень і ўліўны дождж, у пахароннай урачыстасьці сьв. пам. Доктара Станіслава Грынкевіча ў чацьвер 21 красавіка прыняла ўдзел бадай што ўся беларуская калёнія ў Кліўлендзе й прыбылыя зь Нью Ёрку, Дэтройту й Канады найбліжэйшыя сябры й супрацоўнікі Нябожчыка.

Цела Грынкевіча, памерлага ў панядзелак 18 красавіка перад паўднём на ўдар сэрца, знаходзілася ўвесь час у вадным з пахаронных дамоў Кліўленду. З усіх бакоў адкрытай труны, зьверху й зьнізу, было мноства жывых кветак, пераважна белага й чырвонага колеру розаў, нарцызаў і хрызантэмаў, перавязаных бел-чырвона-белымі нацыянальнымі стужкамі. А між імі былі й вянкі ад Прэзыдэнта й Рады БНР, ад Галоўнай Управы БАЗА, ад Сэктару Рады БНР у Амэрыцы, ад беларускіх арганізацыяў Канады, а найбольш ад Кліўленду — усіх мясцовых арганізацыяў, прыяцеляў, сяброў і проста знаёмых.

Напярэдадні пахаронаў за вечны супакой Памерлага адслужыў у пахаронным доме паніхіду настаяцель мясцовага прыходу БАПЦарквы а. А. Крыт, а ў дзень пахаронаў—Божую Службу беларускі каталіцкі ксёндз Ф. Чарняўскі, а пасьлей ёнжа адправіў адпаведныя малітвы ў пахаронным доме і на могілках. Падчас паніхіды й на могілках пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага.

Над магілай Нябожчыка прамаўлялі: сп. В. Семянчук — ад Кліўлендзкіх сяброў Рады БНР, сп. А. Шукелайць — ад Сэктару Рады БНР у Амэрыцы, д-р Ст. Станкевіч — ад Галоўнай Управы БАЗА, сп. А. Каханоўскі — ад беларускага грамадзтва Кліўленду, а. Ф. Чарняўскі.

Пасьля пахаронаў адбыўся ў залі пад царквой памінальны абед, падчас якога прамовам у чэсьць сьвятой памяці Нябожчыка ня было канца. Апрача паўторных прамоваў усіх тых, што гаварылі над магілай, яшчэ прамаўлялі наступныя асобы: сакратар Галоўнай Управы ЗБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА сп. С. Карніловіч, віцэ-старшыня Галоўнай Управы БАЗА й прадстаўнік ад Дэтройту д-р Я. Сажыч, старшыня мясцовага Аддзелу ЗБМА сп. Ул. Дунец, д-р Б. Рагуля, сп. М. Страпко, сп. А. Стрэчань, сп. К. Кіслы, сп. М. Белямук і іншыя.

Кажны з прамоўцаў аднаўляў у памяці нейкі іншы эпізод з жыцьця Нябожчыка, кажны падчыркваў нейкую іншую рысу характару Ягонага. Але ўсе бяз вынятку прамоўцы былі згодныя ў дзьвюх рэчах: першае, што Памерлы быў заўсёды, запраўдным і паўнацэнным чалавекам, чалавекам зь вялікае літары, які любіў запраўднай чалавечай любоўю іншых людзей, а ягоная вера ў чалавека часамі была пасунутая навет да наіўнасьці; другое, што Ён быў гарачым і глыбокім беларускім патрыётам, самаахвярным для нацыянальнае справы, а ягоная патрыятычная любоў да Беларусі нярэдка межавала з фанатызмам у найлепшым сэньсе гэтага слова.

Сьвядомыя гэтых высокіх людзкіх і нацыянальных якасьцяў Памерлага, усе Кліўлендзкія Беларусы, навет і тыя, што пры жыцьці нярэдка розьніліся зь Ім у тактыцы нацыянальнага змаганьня, прыйшлі на пахароны, каб выказаць свой нявымоўны жаль па Ягонай страце й аддаць заслужаную чэсьць Ягонай Памяці.

**Ст. Станкевіч**

